АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

30 КРАСАВІКА – 6 МАЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 20000 РУБЛЁЎ
№18 (210)

**Віншуем жыхароў рэгіёна са святам працы! Традыцыйна многія з нас праводзяць майскія выхадныя на сваіх агародах, садовых участках: плённай вам працы і добрага ўраджаю!**

СМАРГОНЬ

## Тэлебачанне бярэ крэдыт

Тры мільярды рублёў крэдытаў ўзяло закрытае акцыянернае таварыства "Оксна" для таго, каб забяспечыць падачу ў адкрытым пакеце каналаў БТ, ОРТ, РТ, НТВ, "Культура", а таксама шасці дадатковых – у закрытым пакеце для цэнтральнай часткі горада.

Кабельнае тэлебачанне даўно існуе ўжо ў новых мікрараёнах горада Усходнім і Прамысловым, а вось у Цэнтральным і Заходнім яго пакуль няма.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Гараць лясы

Сухое надвор'е красавіка і нядбайнасць людзей выклікалі шмат пажараў. Ля вёскі Крыніца згарэла 3 гектары лесу, 0,4 гектара згарэла ў калгасе Кірава.

Незатушаная цыгарэта ля вагончыка стала прычынай пажару ў лесапаласе Вілейкі. У Макаўі вучань 2–га класа забаўляўся з запалкамі і падпаліў дах паветкі. Пуня з паўтонай сена згарэла ў гаспадара С. Н. з вёскі Каляды, а ў Сасноўшчыне – летняя кухня.

У выніку кароткага замыкання электраправодкі згарэлі дах, перакрыцце паветкі, лазня ў Даўгінаве. Лета яшчэ не пачалося, а страты ад пажараў ужо вялікія.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МЯДЗЕЛ

## Пераможца нязменны

Чацверты год запар праводзяць у мясцовым лягасе конкурс "Лесаруб". Сёлета чатыры з пяці практыкаванняў удзельнікі выканалі на гарадскім стадыёне, а ў лесе праводзілася толькі валка дрэў.

Як звычайна, пераможцам (у чацверты раз!) **Мікалай Семяновіч** з Гатавіцкага лясніцтва. Што цікава, ён ужо два гады, як не ляснік, а майстар па ахове лесу, і таму з бензапілой "бачыцца" нячаста. На гэты раз Семяновіч апярэдзіў бліжэйшага саперніка на 38 балаў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

СМАРГОНЬ

## Смаргонцы любяць падаткі

Пачухаюць патыліцу да 15 лістапада тыя са смаргонцаў, хто мае гаражы і садовыя домікі. Райвыканком прыняў рашэнне аб увядзенні падатку на нерухомасць, што закране інтарэсы аматараў садаводства і аўтамабілістаў.

Умоўны кошт гаража і садовага доміка ўстаноўлены ў 100 мільёнаў рублёў, бо тэхнічная інвентарызацыя іх не вялася. Стаўка падатку ўстаноўлена з разліку 0,1 працэнта кошту пабудовы, а тэрмін уплаты – не пазней за 15 лістапада.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Змены ў кіраўніцтве

На Вілейшчыне змены ў кіраўніцтве: новы першы намеснік старшыні райвыканкома і начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі раёна. Замест **Яўгена Язінскага** на гэтую пасаду прызначаны **Уладзімір Гаўрук**, які перад тым быў галоўным спецыялістам у адной з гаспадарак раёна.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ

## Вёску заасфальтуюць

30,6 мільярда рублёў выдзеліў райвыканком на добраўпарадкаванне вёсак. Такім чынам, кожнаму сельсавету на працягу года будзе адпушчана амаль па два з палавінай мільярды рублёў.

Плануецца, напрыклад, заасфальтаваць вуліцу вёскі Новае Сяло ў Войстамскім сельсавеце, устанавіць водаразборныя калонкі ў вёсцы Дубатоўка Жодзішкаўскага сельсавета, абуладкаваць прыгожае вадасховішча, размешчанае ў вёсцы Кушляны Кушлянскага сельсавета, зрабіўшы тут лаўкі, альтанкі, тратуары ўздоўж азярца.

Вёскі Кавалі і Клочкі Сольскага сельсавета намечана тэлефанізаваць.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Удакладненне

Івянецкі пасялковы выканаўчы камітэт папрасіў паправіць памылку друку, дапушчаную ў мінулым нумары. Таму для чытачоў «РГ» удакладняем:

У матэрыяле «Грошы «зрабілі ногі»?» пад рубрыкай «Крэдыты» сказана, што **Анатоль Протас** – дэпутат Івянецкага пасялковага савета, на самой справе ён быў дэпутатам Івянецкага **сельскага** Савета.

*Аддзел інфармацыі.*



**Камп"ютэрны вірус WIN95.CIH, што ў панядзелак пракацўіся па ўсім зямным шарыку, не абмінуў, на жаль, і рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты». Не надта прыемна адчуваць сваё судакрананне з цывілізаваным светам з такіх пазіцый, але што зробіш...**
**Сённяшні нумар «РГ» мы паспяваем выпусціць толькі на 8 палосах (некаторыя нашыя калегі наогул не змаглі выпускаць свае газеты гэтымі днямі). Натуральна, што галоўная тэма нумара – злашчасны камп"ютэрны вірус.**

# Вірус, або Вінчэстэр можна «падняць»

Такім чынам, у мінулы панядзелак быў «камп"ютэрны Чарнобыль». Культываваны ў Тайвані вірус, аўтар распаўсюдзіў праз Internet па ўсім свеце. У дадатак, увесну была выпушчана партыя «завірусаваных» (!) камп"ютэраў. У нашай краіне, па некаторых звестках, крыніцай заражэння стаў, у прыватнасці, рынак у Ждановічах, дзе прадаюцца CD з крадзеным праграмным забеспячэннем і гульнямі.

Штогод у дзень чарговай гадавіны аварыі на ЧАЭС вірус актывізуецца (хаця дакладней будзе сказаць, што «прачынаецца» ён 26 чысла кожнага месяца, але актыўнасць яго не такая вялікая і разбуральная) і наносіць вялікі ўрон карыстальнікам камп"ютэрамі.

Найбольш «клінічны» выпадак – страта ўсёй інфармацыі на вінчэстэры без магчымасці аднаўлення. Часта выходзіць са строю і мацярынская плата.

Не застаўся ў баку ад сусветных праблемаў і наш рэгіён. Рушыліся машыны ў прыватных карыстальнікаў, на прадпрыемствах (прыкладам, на маладзечанскім «Спадарожніку», іншых параўнальна невялікіх гандлёвых і вытворчых прадпрыемствах).

Цікава, што не засцерагліся ў многіх выпадках нават тыя, хто займаецца абслугоўваннем камп"ютэрнай тэхнікі. Што казаць, калі нават у некаторых буйных гарадах свету выйшла са строю да 50–70% камп"ютэраў?!

У прэсе прайшло ўжо, што ў выніку «дыверсіі» інфармацыя з жорсткіх дыскаў згублена назаўсёды. Але досвед, у прыватнасці, маладзечанскіх камп"ютэршчыкаў даказвае адваротнае. У розных выпадках можна выратаваць да 100% напрацаванага і запісанага на вінчэстэр.

Тым, хто яшчэ не расчараваўся ва ўсім добрым, а таксама не паспеў «дамашнімі сродкамі» знявечыць вінчэстэр, мы раім патэлефанаваць у Маладзечне 70132 ці 74831 (рэклама SB Computers, дарэчы, рэгулярна змяшчаецца ў «Рэгіянальнай газеце», таму нашы ўважлівыя чытачы маглі ўжо звярнуцца да гэтых спецыялістаў. Заўважым, што ўсе іхнія кліенты, тэхніка якіх стаіць на абслугоўванні, ад віруса засцерагліся).



*Раман Юркін толькі за гэтыя дні «выцягнуў» інфармацыю з двух дзесяткаў камп"ютэраў.*
ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

МУЗЫКА

## Спяваюць нашы светлячкі



ФОТА МІХАІЛА АСАЕВІЧА.

МАЛАДЗЕЧНА. Гэтыя прыгожыя маладыя жанчыны – педагогі мясцовай дзіцячай музычнай школы. Яны працуюць з хорам малодшых класаў "Светлячок", які стаў у красавіку пераможцам абласнога конкурсу харавых калектываў з Маладзечна, Чысці, Беразінскага, Ракава і іншых.

**Ірына Луніна** (злева) выкладае харавое дырыжыраванне і ставіць голас у дзяцей ад 6 да 12 гадоў. Усяго іх цяпер у яе каля 200. А колькі за 7 год працоўнага стажу ў школе прайшло праз яе навуку – злічыць цяжка.

**Гаянэ Хачатурава** – канцэртмайстар "Светлячка" і выкладчыца класа фартэпіяна, у якім музыцыруюць 16 дзетак. Дзесяць год таму яна разам з бацькамі і братам прыехала ў Маладзечна з Баку, дзе пачаліся этнічныя канфлікты. За гэты тэрмін армянская сям'я абжылася тут. Старэйшы брат ажаніўся з беларускай, у іх цяпер двое дзяцей. Безумоўна, сумуюць па Баку, але і не шкадуюць, што лёс прывёў іх на Беларусь.

*Святлана САРОКА.*



НЕЗВЫЧАЙНАЕ ПОБАЧ

## Усе на збор макулатуры!

СМАРГОНЬ. Сур'ёзныя перабоі звязваюць з сыравінай кардонна–папяровае ААТ "Альберцін" са Слоніма і астравецкае "Альхоўка". Каб дапамагчы ім, абляыканком прымае некаторыя захады. Па яго рэкамендацыі смаргонскі райвыканком абавязаў прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы здаць пэўную колькасць макулатуры. Напрыклад, райкаапнарыхтпрам абавязаны знайсці 200 тон яе, агрэгатны і завод аптычнага станкабудавання – па дзве тоны, упраўленне адукацыі – 20 тон, аддзел культуры, ліцэйна–механічны завод – па тоне і г. д. Агульная сума нарыхтаванай макулатуры павінна скласці за год 360 тон. Напэўна, узлыхнуць з палёгкай слонімцы ды астравечане.

*Павел МАКЛЮК.*

СКАНДАЛЬЧЫКІ

## Распранулі міс "Грацыю"

МАЛАДЗЕЧНА. У актавай зале мясцовага палітэхнікума прайшоў традыцыйны конкурс прыгажунь сярод школьніц. У першай узроставай групе перамагла шасцікласніца СШ №9 **Вольга Бітэль**.

А вось з міс "Грацыя" – таксама шасцікласніцы, толькі СШ №6 – **Маргарыты К.** на вачах у залы карону знялі. Маўляў, прабач, памылка выйшла.

У гарадскім аддзяленні БПСМ сказалі, што ў журы былі прадстаўнік "патрыётаў", але ні ён, ні астатнія журысты дзяўчыну не крыўдзілі. Хутчэй за ўсё, зрабіў гэта нехта з арганізатараў. А пакрыўджаная на наступны дзень (пасля істэрыкі – аўт.) весела бегала па школе.

На званне міс "Грацыя" прэтэндавалі 2 дзяўчынкі (усяго было тры кароны – міс, віцэ-міс, міс "Грацыя"). Таму адну ўдзельніцу – Маргарыту – вырашылі не ўзнагароджваць. Аднак паспелі ёй уручыць узнагароды. А потым іх адабралі. Дзяўчо ад адчаю (уличвайце дзіцячую псіхіку) на сцэне ледзь не страціла прытомнасць.

У цэнтры пазашкольнай работы аддзела адукацыі (цэнтр трэці год праводзіць конкурс прыгажунь сярод школьніц) запэўнілі: Маргарыце К. у яе школе ўручаць карону і прысудзяць званне міс "Зачараванне".

*Аддзел інфармацыі.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Беднасць і хваробы

СМАРГОНЬ. 56 пісьмовых і 3 вусныя звароты паступілі за першы квартал у райвыканком з просьбай аказаць дапамогу. Узровень жыцця сем'яў і адзінокіх людзей апускаецца ніжэй не толькі за рысу беднасці, але і галечы. У той час, як ці не кожны дзень растуць цэны.

Райвыканком адшукаў 45,5 мільёна рублёў, каб задаволіць гэтыя просьбы. Сямі заяўнікам пасля вывучэння іх матэрыяльнага стану, праўда, адмоўлена, а з дзевяццю яшчэ разбіраюцца.

Людзі звяртаюцца і ў аддзел сацыяльнай абароны. Туды такіх зваротаў за студзень–сакавік паступіла 158. Удалося задаволіць 131 і выдзеліць для гэтага 699780 тысяч рублёў.

32 аналагічныя заявы паступілі і ў цэнтр занятасці, па іх аказаная дапамога на суму 21500 тысяч рублёў.

Шпарка крочыць туберкулёз. Спецыялісты звязваюць гэта, найперш, з сацыяльна–эканамічнымі прычынамі. За тры гады захворваемасць павялічылася на 18,6 працэнта і складае цяпер 49,4 выпадка на 100 тысяч насельніцтва.

Асабліва туберкулёз пашыраецца за кошт тых, хто вяртаецца з мясцін пазбаўлення волі – там на сто тысяч зафіксавана летась 946 выпадкаў. Дарэчы, у раён такіх носьбітаў небяспечнай хваробы пасля "адпачынку на нарах" прыбыло 14 чалавек.

*Павел МАКЛЮК.*

СМАЧНА ЕСЦІ

# Суп з маладой крапівы

Вось як немудрагеліста гатавалі суп з крапівы ў даўніну.

Зварыць звычайны мясны булён. Можна і прасцейшы: у кіпень выкласці абсмажаныя на алеі (ці на здробленых шкварках) кавалачкі цыбуліны і морквіны. Парэзаць сюды 3–4 бульбіны. Пакуль бульба будзе варыцца, абмыць лісцікі маладзенькай крапівы, у колькасці, прыблізна, як на талерку салаты. Крышку іх парубіць. Узбіць відэльцам 1–2 яйкі. Спачатку паціху, невялічкімі дозамі, выліць у суп яйка, якое на вачах будзе згусаць. Потым укінуць крапіву. Суп падаюць да стала са смятанай ці забеленым малаком.

# Булён з амлетам

Амлет трэба гатаваць на "паравой лазні", для чаго спатрэбіцца дзве патэльні, якія лёгка ўваходзяць адна ў адну. У глыбокай талерцы паўзбіваць венчыкам 4 яйкі, дадаць соль і 1 шклянку малака. Змяшаную масу выліць у абмазаную маслам меншую патэльню, накрыць накрыўкай. На "паравой лазні" амлет трэба варыць 30 хвілін, каб ён добра згусцеў. Потым астудзіць і парэзаць кавалачкамі.

Булён гатуецца асобна. Можна зрабіць мясны, курыны ці з канцэнтрату "Галіна Бланка". У талеркі раскласці кавалачкі амлету, зеляніну і заліць булёнам.

*Святлана САРОКА.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 21.04 | 28.04 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 380 | 390 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1260 | 1260 |
| Сасіскі | 1 кг | 445 | 445 |
| Селядзец | 1 кг | 300 | 300 |
| Рыс | 1 кг | 185 | 190 |
| Цукар | 1 кг | 135 | 140 |
| Грэчка | 1 кг | 140 | 155 |
| Алей | 1 л | 340 | 350 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 103 | 127 |
| Маянэз | 250 г | 70–80 | 70–80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 400 | 420 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 110 | 110 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 95 | 110 |
| Лімоны | 1кг | 415 | 485 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | 180 |
| Масла | 1 кг | 400 | 400 |
| Тварог | 1 кг | 150 | 150 |
| Малако | 1,5 л | 45 | 60 |
| Бульба | 1 вядро | 300–340 | 280–300 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 160 | 150 |

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# Неканкурэнтная станцыя

СМАРГОНЬ. Сістэматычна зніжае аб'ёмы паслуг станцыя тэхнічнага абслугоўвання. У 1997 годзе яна аказала дапамогі аўтааматарам на 467 мільёнаў рублёў, летась – на 20% менш. Зніжаецца яе эфектыўнасць і сёлета. Станцыя мае звыш за мільярд рублёў крэдытнай запазычанасці.

У выніку яна страчвае заказчыкаў і ўласных работнікаў. Пры патрэбе 124 тут працуюць толькі 27 чалавек, ды і тыя, пераважна, з нізкай кваліфікацыяй.

Цякучасць кадраў складае тут 96,2 працэнта, а рабочых – усе 100.

Райвыканком прапанаваў вышэйстаячай арганізацыі БелАСТ вызваліць дырэктара станцыі тэхабслугоўвання В. Ермакова ад займаемай пасады, узяць станцыю ў камунальную ўласнасць, каб вывесці яе з фінансавай ямы.

*Павел МАКЛЮК.*

ВЯРТАННЕ АЎТАРА

# «Каб хоць на міг уваскрэсла каханне..!»

***Гэта радкі з верша таленавітага беларускага паэта Максіма Багдановіча «Зорка Венера» (1912 г.), больш вядомага як раманс, які стаў адным з музычных сімвалаў Беларусі.***

Доўгі час музыка яго лічылася народнай і ў спеўніках памячалася: «Запісана Рыгорам Шырмам у 1935 годзе на Наваградчыне». Быў зроблены шэраг музычных апрацовак раманса, але найбольш папулярная належыць Анатолю Багатырову. І вось нядаўна вернута з небыцця імя сапраўднага аўтара непаўторнай мелодыі. Ім з'яўляецца наш зямляк, грамадска-палітычны дзеяч, педагог, публіцыст і паэт Сымон Рак-Міхайлоўскі.

Нарадзіўся ён 2 (14) красавіка 1885 года ў вёсцы Максімаўка Вілейскага павета. (Цяпер Маладзечанскі раён, непадалёку знаходзіцца помпавая станцыя трэцяга пад'ёма Вілейска-Мінскай воднай сістэмы). Бацькі працавалі па гаспадарцы, але сыну далі на той час добрую адукацыю. Пасля заканчэння ў 1904 годзе Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі настаўнічаў у родных мясцінах, у гады першай рускай рэвалюцыі вёў агітацыйную работу, сяляне выбралі яго хадаком у Дзяржаўную думу. Пасля паражэння рэвалюцыі вымушаны быў выехаць у Крым, дзе ў 1912 скончыў педагагічны інстытут у Феадосіі.

У 1914-1917 гадах прымаў удзел у першай сусветнай вайне, ваяваў на Румынскім фронце, вёў сярод салдат рэвалюцыйную агітацыю. З 1917 года ў Мінску актыўна ўдзельнічаў у розных грамадскіх арганізацыях, як цэнтральная вайсковая рада, рада БНР, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Многа энергіі аддаваў арганізацыі беларускіх школ. У 1922 годзе выбіраецца дэлегатам польскага сейма, з трыбуны якога абараняў інтарэсы сваіх выбаршчыкаў, выкрываў каланізатарскую палітыку ўлад. У гэты час у Заходняй Беларусі актывізуюцца рэвалюцыйны і патрыятычны рух, дзе Рак-Міхайлоўскі адыгрывае адну з першых роляў. Ён з'яўляецца членам галоўнай управы Таварыства Беларускай Школы, намеснікам старшыні ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады, уступае ў рады КПЗБ, многа пісаў актуальных артыкулаў, рэдагаваў некаторыя перыядычныя выданні.

У 1927 годзе БСРГ была разгромленая, многія яе члены, асабліва кіраўніцтва, арыштаваныя і асуджаныя на розныя тэрміны. Сымон атрымаў 12 гадоў. У турме не адышоў ад сваёй жыццёвай пазіцыі, вучыў вязняў грамаце, складаў песні. Патрэбна адзначыць, што Рак-Міхайлоўскі яшчэ з дзяцінства захапляўся музыкай, працуючы настаўнікам, збіраў фальклор. Знаходзячыся ў Няволі, ён і напісаў музыку на вядомы верш М. Багдановіча. Акрамя таго, яму прыпісваюць і знакаміты дуэт-баладу «Што за хлопец, што за дзяўчына».

У 1930 годзе Сымон Аляксандравіч выйшаў на волю па рашэнні апеляцыйнага суда, а праз год быў перапраўлены з сям'ёй у Мінск. Працаваў там дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, быў членам Цэнральнага Выканаўчага Камітэта БССР. У 1933 годзе НКУСам рэспублікі была ўзбуджаная надуманая справа па дзейнасці «Беларускага нацыянальнага цэнтра» - шыроказразгалінаванай контррэвалюцыйнай паўстанцкай і шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі.

Да адказнасці ў якасці абвінавачваемых прыцягвалася 97 чалавек, амаль усе яны «прызналіся» у сваёй злачыннай дзейнасці і былі жорстка пакараныя. Рак-Міхаўлоўскі спачатку атрымаў 10 год лагераў, а ў 1938 годзе прыгавораны да растрэлу. Такі ж лёс напаткаў і многіх іншых членаў БНЦ. А гэты былі лепшыя людзі Беларусі, якія змагаліся за нацыянальнае вызваленне яе акупаванай заходняй часткі, падвяргаліся ганенням і рэпрэсіям з боку польскіх буржуазных улад.

Кіраўніцтва БНЦ, згодна з версіяй НКУС, было ў складзе: С. А. Рак-Міхайлоўскі, П. В. Мятла, І. С. Дварчанін, М. Т. Бурсевіч, П. П. Валошын, Ф. І. Валынец і І. А. Гаўрылік.

Два апошнія - нашы землякі.

Флягонт Ігнатавіч нарадзіўся ў 1878 г. у Вілейцы, працаваў настаўнікам, на іншых рабочых месцах. У 1917 - галава горада, а з 1918 - старшыня гарсавета. У час белапольскай акупацыі ўдзельнічаў у разнастайных грамадскіх арганізацыях, двойчы выбіраўся дэпутатам сейма, неаднаразова арыштоўваўся ўладамі. У 1930 годзе прыгавораны да 16 гадоў турмы. У 1932 годзе ў выніку абмена палітвязняў пераехаў у Мінск, дзе працаваў у Наркамаце камунальнай гаспадаркі. За прыналежнасць да БНЦ у 1934 годзе спачатку быў прыгавораны да растрэлу, замененага на 10 гадоў лагераў на Салаўках. У 1937 годзе асобай тройкай УНКУС прыгавораны да растрэлу.

Язэп Емяльянавіч Гаўрылік нарадзіўся ў 1893 годзе ў в. Калодчына каля Ільі, атрымаў прафесію настаўніка. З'яўляецца адным з заснавальнікаў Радашковіцкай беларускай гімназіі ім. Ф. Скарыны, абіраўся дэпутатам у сейм. У 1930 годзе быў асуджаны польскімі ўладамі на 9,5 год зняволення. А ў далейшым лёс яго як кропля вады падобны на лёс Валынца.

Цяпер зразумела, чаму раманс «Зорка Венера» не меў аўтара. Забараніць песню ўлады не маглі, бо яна стала сапраўды народнай, а імя Рак-Міхайлоўскага сцерлі, але ненадоўга.

*Анатоль РОГАЧ.*

ГАРАСКОП 3 – 9 ТРАЎНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
На працы захаваеш самастойнасць, што дапаможа ў дасягненні добрых вынікаў.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Добрыя дні 7, 8. У асабістым жыцці – шчасце і асалода ад кахання.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добры дзень 5, важны 7. Падтрымка з боку партнёраў дазволіць атрымаць добрыя дывідэнды.

**РАК (22.06–23.07)**
Добрыя дні 3–5. Карысная парада дапаможа табе весці справы з поспехам.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Кепскі дзень 3. У сямейным жыцці – толькі святы.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Добры дзень 7. Адносіны з каханым чалавекам зробяць гэты тыдзень прыемным ва ўсіх адносінах.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Атрымаеш падтрымку начальніка, пасля чаго будзеш дзейнічаць больш упэўнена.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскія дні 7–9. Адпачні і прысвяці сябе любімым заняткам.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Важны дзень 3. Не губляй шанц, а выкарыстай яго!

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Кепскі дзень 4. Не адмаўляйся ад дзелавых прапаноў.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добры дзень 3, кепскі 9. Не звяртай увагі на дамашнія праблемы.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Кепскія дні 3–5. Прыхільнікі азартных гульняў павінны быць асабліва пільныя.

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Знайшлі праз 2 гады

ВІЛЕЙКА. Два гады і 4 месяцы знаходзілася ў вышуку жыхарка Іжы Г. В. І толькі цяпер цела 65–гадовай жанчыны знайшлі ў затоцы ля вёскі.

Хутчэй за ўсё, яна ўтапілася, бо прыкмет гвалтоўнай смерці не знойдзена.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

# "Канфіскат" з мукі і мяса

ВАЛОЖЫН. 10 тон мукі і 240 кілаграмаў мяса канфіскаваныя на мытні ў парушальнікаў рэжыму правозу. Па рашэнні раённай камісіі прадукты накіраваныя аб'яднанню грамадскага харчавання.

Адсюль мука і мяса трапяць у школьныя сталоўкі. Можа, такім чынам харчаванне дзяцей зробіцца крышку таннейшым у бліжэйшыя дні.

*Наталя ШТЭЙНЕР.*

ПАРАДЫ САДАВОДУ–АГАРОДНІКУ

## *Каляндар работ на год*

# Вішня

**МАЙ.** Перад цвіценнем падкарміце вішню вадкімі арганічнымі або мінеральнымі ўгнаеннямі. Свежы каравяк або птушыны памёт разбаўце вадой з разліку 1:9, 10 л гэтага раствору ўнясіце на 1 кв. м прыствольнага круга. Мінеральныя падкормкі рыхтуйце з разліку 1 сталовая лыжка кальцыевай ці калійнай салетры на 10 л вады. Пасля таго, як вада ўсмокчацца, глебу замульчыруйце. Вішні, якая цвіце, часта шкодзяць веснавыя замаразкі. Не чакаючы замаразкаў, падрыхтуйце кучкі для дымлення. Пры паніжэнні тэмпературы паветра да 0° запаліце іх. Заканчвайце дымленне праз 1–2 гадзіны пасля ўзыходу сонца. Замаразкі могуць паўтарацца, таму не спальвайце адразу ўсе дымавыя кучы.

Другі спосаб абароны квітнеючага саду ад веснавых замаразкаў – апырскванне кроны дрэў і паліў глебы пад імі вадой.

Вішня адчувальная да засухі. Калі надвор'е стаіць спякотнае і сухое, абавязкова палівайце яе – 2–3 вядры вады на 1 кв. м прыствольнага круга. Пры ўтрыманні міжраддзяў саду пад чорным папарам глеба павінна быць рыхлая і чыстая ад пустазелля. Калі ў міжраддзях пасеяная трава, рэгулярна (5–6 разоў за лета) скошвайце яе і пакідайце ў выглядзе мульчы. У прышчэпленых вішняў сістэматычна выдаляйце парасткі. Адграбайце глебу і выразайце парасткі на кольца (без пакідання пянькоў) да аснавання ствала або каркаснага кораня. Калі пакінуць хаця б невялікі пянёчак, з пупышак на ім будуць развівацца яшчэ больш моцныя атожылкі.

# Суніцы

**МАЙ.** Зграбіце граблямі або зрэжце садовым нажом сухое лісце і плеці, таму што яны могуць стаць месцам збірання шкоднікаў і крыніцай хваробы. Лісце вынесіце за ўчастак і спаліце.

Глебу на новых пасадках карысна закрыць з абодвух бакоў рада спецыяльнай усходазасцерагальнай (тэрмагідрафобнай) паперай або чорнай сінтэтычнай плёнкай. Папера або плёнка засцеражэ пасадкі ад пустазелля, глеба застанецца больш рыхлая, менш забрудзяцца ягады, палепшыцца развіццё раслін.

Пры нармальным росце суніцы не ўгнойваюць, таму што лішак угнаенняў для іх такі ж шкодны, як і недахоп.

На бедных глебах, пры слабым росце падкарміце суніцы першага і другога года плоданашэння арганічнымі ўгнаеннямі – кампостам або торфам (3–4 і 5–6 кг на кв. м). Калі няма арганічных угнаенняў, выкарыстайце поўнае мінеральнае угнаенне з разліку на кв. м: 12–15 г аміячнай салетры, 30 г суперфасфату і 15 калійнай солі. Можна прымяняць замест гэтых угнаенняў пладова–ягадную сумесь (50–60 г на кв. м) або нітраамафоску (20–30 г на кв. м). Абавязкова падкарміце ў такіх самых дозах усе рэмантантныя суніцы.

Мінеральныя ўгнаенні рассыпаюць уздоўж рада ў сухім выглядзе. Рабіць гэта лепш у вільготнае надвор'е вельмі асцярожна, не трапляючы на лісце, бо магчымыя апёкі. Можна прымяняць мінеральныя ўгнаенні і ў выглядзе вадкіх падкормак, асабліва неабходныя такія падкормкі рэмантантным суніцам. Арганічнымі ўгнаеннямі мульчыруюць глебу каля раслін.

Суніцы трэцяга года плоданашэння падкарміце толькі азотам (12–15 г на кв. м). На маладых пасадках азотныя ўгнаенні не прымяняюць, таму што пагаршаецца прыжывальнасць раслін.

Пасля ўнясення ўгнаенняў, як толькі дазволіць надвор'е, прарыхліце глебу ў радах і міжраддзях. Суніцы вельмі чулыя на рыхленне глебы, не спазняйцеся, таму што позняя апрацоўка зніжае ўраджай. Новыя пасадкі рыхліце штыкоўкамі, вузкімі матычкамі, каб не папсаваць каранёвую сістэму раслін.

У рэмантантных сартоў пасля веснавога рыхлення міжраддзі замульчыруйце перапрэлым гноем або кампостам (10–15 кг на кв. м). Калі няма кампосту, у канцы мая падкарміце рэмантантныя суніцы яшчэ раз поўным мінеральным угнаеннем у вадкім выглядзе (10 г аміячнай салетры, 15–20 г суперфасфату і 5 г калійнай солі на 10 л вады).

У перыяд цвіцення часта бываюць замаразкі, асабліва ў паўночных раёнах краіны. Для засцярогі кветак ад замаразкаў накрыйце пасадкі рагожай або газетнымі стужкамі (газеты, склееныя ў 3–4 слаі), умацаваўшы іх на ўбітыя ў зямлю калкі.

У сухое надвор'е суніцы палівайце. Пры недахопе вільгаці ў час цвіцення суніцы дрэнна апыляюцца і мала завязваецца ягад. У сярэднім, на 15–20 раслін расходуйце 10 л вады. У паўднёвых раёнах, а таксама для рэмантантных сартоў расход вады павялічваецца да 1 літра на расліну. Калі з'явілася пустазелле, выдаліце яго, глебу ў радах і міжраддзях прарыхліце. Да выспявання ягад звычайна праводзяць не менш за тры рыхленні глебы.

